

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 6 (443) | 9 ЛЮТАГА 2000 г.


## 26 студзеня Менску адбылася ўрачыстасць, прысвечаная 10-м угодкам з дня прыняцця закона "Аб мовах у Беларускай ССР"

26.01.2000г.

**Рэспубліканскаму грамадскаму аб'яднанню "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

***Шаноўныя сябры!***

Сардэчна, горача віншуем прыхільнікаў і абаронцаў роднай мовы з 10-ымі ўгодкамі з дня прыняцця Закона "Аб мовах...". Жадаем новага плёну ў справе адраджэння нашага слова, заняцця ім свайго належнага месца ва ўсіх сферах жыццядзейнасці беларускага грамадства.

Роднага слова жывое святло
Некалі ад залатога зачыну
З шэрай зямлі і з любові ўзышло.
Каб нарадзіць у пакутах Айчыну.

Гэта святло, як у вечнасць акно,
Гэта ад продкаў надзейная пошта.
Для беларусаў заўсёды яно –
Першы прытулак і самы апошні.

Льецца ярчэе святло дзень пры дні
І апантана, настойліва рушыць,
Нішчыць завалы нахабнай хлусні,
Каб уваскрэслі змарнелыя душы.

На скрыжаванні бяды і надзей
Здраднікам сёння няўтульна, няўлежна,
А для сумленных і мужных людзей
Гэта святло, як сама незалежнасць.

З сэрцаў у сэрцы стагоддзі цякло,
Стала зарукаю долі і волі...
Роднага слова жывое святло,
"Нашага слова" жывое святло
Нас не пакіне ніколі, ніколі.

***Калектыў рэдакцыі часопіса "Полымя"***



Купляюцца беларускія кнігі
Фота Яўгена Казюлі,БелТА

### ЗАЯВА ГАРАДЗЕНСКАЙ ФІЛІІ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ.

**Да дзесятых угодкаў з часу прыняцьця закону пра дзяржаўнасьць беларускай мовы.**

26 студзеня 1990 году Вярхоўны Савет БССР 11-га склікання прыняў закон пра наданне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай на тэрыторыі Беларусі. Пайсці на гэты крок дэпутатаў кмуністычнага парламенту змусілі абставіны, якія тады склаліся ў краіне – дэмакратызацыя, рост нацыянальнай свядомасці беларусаў. Выкананне згаданага закону расцягвалася на гады. Але ён ёсць і яго ніхто не адмяняў. Аднак, антызаконныя дзеянні дзяржаўных чыноўнікаў, якія нахабна байкатавалі выкананне закону (асабліва пасля псэўдарэфэрэндуму 1995 года) прывялі да катастрафічнага стану беларускамоўнага школьніцтва, вышэйшай адукацыі. Беларуская мова выціснута з дзяржаўных установаў. Беларусы на сваёй Радзіме апынуліся ў становішчы нацыянальнай меншасці. Улады ігнаруюць нават свае рашэнні пра так званую "роўнасць" моваў. Так, на звароты і заявы грамадскіх і палітычных арганізацыяў, пададзеныя ў гарадзенскія гарадскі і абласны выканаўчыя камітэты, адказы даюцца па-расейску. Амаль усе новыя шыльды на ўстановах горада Гродна расейскамоўныя. З асаблівым цынізмам зьнішчаюцца беларускамоўныя класы. У лепшым выпадку на роднай мове маленькія беларусы могуць атрымаць толькі пачатковую адукацыю. Далей, як правіла, адміністрацыяй школаў ўсё робіцца для таго, каб навучанне ў сярэдняй школе было расейскамоўным.

Чыноўнікі сцвярджаюць, што гэта ўсё робіцца па жаданьні самых беларусаў, якія "предпочитают русский язык". Але вынікі апошняга перапісу насельніцтва даюць доказ адваротнаму. Так 72,6% насельніцтва Гарадзеншчыны назвалі сваёй роднай мовай беларускую, а 53, 6% сцвердзілі, што з'яўляюцца беларускамоўнымі.

Узнікае пытаньне: Чаму болшасць павінна падпарадкоўвацца меншасці? Ці не таму, што гэта чужынская меншасць займае амаль ўсе кіруючыя пасады ў вобласці?

Мы звяртаемся да ўсіх жыхароў Гарадзеншчыны, якіх не задавальняе такі стан. Давайце разам бараніць свае нацыянальныя і чалавечыя правы. Супольна мы можам зьмяіць ганебнае становішча, якое склалася ў краіне. Хопіць казаць, што нас адзінкі. Толькі ў Прынямоньні нас амаль мільён. Гэта больш, чым налічваюць некаторыя народы. Гарадзенская філія БСДГ прапануе стварыць ў гарадах, мястэчках, вёсках суполкі ў абарону роднай мовы. Аб'ядноўвайцеся па месцы жыхарства, па арганізацыйную дапамогу можна звяртацца ў мясцовыя суполкі БСДГ, альбо Таварыства Беларускай Мовы. Калі ў вашым мястэчку, ці вёсцы няма гэтых арганізацыяў, звяртайцеся ў Горадню, кожны аўторак з 18 да 19 гадзінаў па тэлефоне 72-35-61.

Пра ўсе выпадкі, звязаныя з парушэннем правоў карыстання беларукай мовай просім паведамляць на адрас: 230023 г. Горадня а/с № 121, альбо па тэлефоне пададзенаму вы-шэй.

***25 студзеня 2000 года.***

***Рада Гарадзенскай БСДГ***



**Танцуюць "Берагіні " з Барысава**



**Кажа Генадзь Бураўкін**



**СпяваеЭдвард Акулін**

*Уладзімір Арлоў*

# Адкуль наш род

*(Працяг)*

## Беларусь паўстала

Першыя паўстанцы з'явіліся на захадзе Беларусі ў студзені 1863 года. Вясною паўстанцкія атрады пачалі стварацца паўсюль. У іх уступала шляхта, чыноўнікі, студэнты і навучэнцы. Кожны пяты паўстанец быў селянін. На чале атрадаў стаялі мужныя і адданыя справе вызвалення камандзіры Валеры Урублеўскі, Рамуальд Траўгут, Людвіг Звяждоўскі, Ігнат Будзіловіч, Фелікс Віславух...

Змагары атрымалі некалькі значных перамогаў. Яны авалодалі горадам Горкі і мястэчкам Свіслач, напалі на Ружаны. У паўстанцаў не хапала зброі, вайсковага вопыту, але іх вяла наперад вера ў справядлівасць сваёй барацьбы. Сваіх баявых узнагародаў яны не мелі, і камандзіры пасля бою ўзнагароджвалі герояў проста кветкамі. Часта гэта былі белыя кветкі каліны.

Расейскім уладам удалося рознымі абяцанкамі падмануць значную частку беларускіх сялянаў. Шмат хто паверыў, нібыта "паны б'юцца з маскалямі, каб вярнуць адменены царом прыгон". Не было згоды і сярод кіраўнікоў паўстання. Некаторым не падабалася, што Каліноўскі і яго таварышы хочуць аддаць зямлю сялянам і зрабіць усіх людзей роўнымі перад законам. Усё гэта моцна аслабляла сілы паўстанцаў.

На ўсходзе Беларусі карнікі задушылі паўстанне ўжо ў траўні. Былі разбітыя і амаль усе атрады змагароў Менскай губерні. Толькі на Гарадзеншчыне яны былі доўгі час недасягальныя для карнікаў, бо там паўстанцаў працягвалі падтрымліваць сяляне. Самы вялікі бой адбыўся каля вёскі Мілавіды, недалёка ад Слоніма. Нягледзячы на адвагу і гераізм, пад націскам выдатна абучаных і ўзброеных расейскіх войскаў паўстанцы мусілі адступіць далей на захад.

На беларуска-польскім памежжы асобныя атрады вялі барацьбу да самага канца 1863 года.

## Мураўёў Вешальнік

Царскімі карнікамі кіраваў граф Міхаіл Мураўёў. Калі не дапамагала ўзброеная сіла, ён дзейнічаў подкупамі і ашуканствам, не грэбаваў ніякімі сродкамі. За сваю жорсткасць і крывавыя подзвігі Мураўёў атрымаў мянушку Вешальнік.

128 паўстанцаў былі павешаныя або расстраляныя. 850 змагароў адправілі на катаргу, 11 500 – у ссылку. Шмат за кім царскія ўлады ўстанавілі таемны нагляд.

Пасля паўстання ў Беларусі на ўсе дзяржаўныя пасады прызначалі толькі перасяленцаў з Расеі. Усе школы былі расейскія. Па-беларуску забаранялася не толькі вучыцца і выдаваць кнігі, але нават гаварыць у дзяржаўных установах. Царскія ўлады на чале з Мураўёвым рабілі ўсё, каб беларусы забылі хто яны, і ператварыліся з вольналюбівага народа ў забітае, бяспамятнае і абязмоўленае насельніцтва, якое можна бязлітасна прыгнятаць і рабаваць.

Мураўёў казаў, што той жыхар нашага краю, які не захоча ператварыцца ў расейца, будзе лічыцца іншаземцам і павінен назаўсёды пакінуць радзіму.

## Апошнія дні Каліноўскага

Хаваючыся ад царскіх жандараў, Кастусь Каліноўскі жыў у Вільні пад прыдуманым імем. Адзін з арыштаваных паўстанцаў на допыце выдаў правадыра, і яго схапілі.

На следстве і на судзе Кастусь трымаўся надзвычай мужна. Калі яму прапанавалі аблегчыць свой лёс, назваўшы некаторыя адрасы і імёны таварышаў, Каліноўскі адказаў, што шпіёнства апаганьвае чалавека.

Расейскі суд вынес пастанову пакараць кіраўніка паўстанцаў смерцю на шыбеніцы. Герой загінуў ад рук царскага ката 22 сакавіка 1864 года. На тым месцы, дзе гэта адбылося, у Вільні пастаўлена мемарыяльная пліта.

З турэмнай камеры Каліноўскі перадаў на волю свой напісаны па-беларуску запавет – "Пісьмы з-пад шыбеніцы". "Браты мае, мужыкі родныя! – гаварылася там. – Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе..." У астрозе, напярэдадні смерці, Кастусь напісаў верш, прысвечаны сваёй каханай дзяўчыне Марысі і – адначасова – усёй Беларусі. У ім ёсць такія словы:

Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе
І часамі спамяні пра Яську свайго,
Што загінуў за праўду для дабра твайго.

Палымяныя словы Каліноўскага клікалі беларусаў на барацьбу за свабоду і пасля яго смерці.

Сваім ахвярным жыццём Кастусь Каліноўскі заслужыў вечную памяць. Пра яго напісаны кнігі і гістарычныя даследаванні. Яго імем у гарадах і мястэчках Беларусі названы вуліцы. Мастакі і скульптары стварылі дзесяткі партрэтаў правадыра паўстанцаў.

За тое, што Кастусь Каліноўскі зрабіў для Беларусі, мы называем яго нашым нацыянальным героем. Ягоны прыклад натхняе нас і сёння, калі наша краіна будуе сваё незалежнае жыццё.

**Пытанні і заданні:**

1. *Што ты даведаўся пра паўстанне 1831 года?*
2. *Раскажы пра юначыя гады Кастуся Каліноўскага.*
3. *Пра што пісала газета "Мужыцкая праўда"? Хто такі Яська-гаспадар з-пад Вільні?*
4. *Як Беларусь змагалася за сваю свабоду ў 1863 годзе?*
5. *Ці былі паўстанцкія атрады ў тых мясцінах, дзе ты жывеш? Хто імі кіраваў?*
6. *Чаму паўстанцы не змаглі перамагчы?*
7. *За што расейскага графа Мураўёва празвалі Вешальнікам?*
8. *Раскажы пра апошнія дні жыцця Каліноўскага.*
9. *Чаму мы называем Кастуся Каліноўскага нашым нацыянальным героем?*

**Вось мы і закончылі друкаваць кнігу Уладзіміра Арлова "Адкуль наш род". Ці спазналі мы адказ на пытанне? Хто як. Я не збіраюся вам яго падказваць. Ды і падказаць нельга. У кожнага свой пачатак роду. Але ўва ўсіх нас разам пачатак адзін. Мы з вечнага і векавечнага беларускага народа. Мы пачаліся значна раней, чым пачалася кніга Арлова, і закончымся значна пазней, чым закончылася кніга. І не думайце, што я памыліўся, што я не веру ў бессмяротнасць беларускага народа. Я ў гэта веру, але я ведаю гісторыю чалавецтва. Пройдуць нейкія тысячагоддзі, і мы з беларусаў ператворымся ў нейкі іншы народ з нейкай іншай назвай, як і дагэтуль мы ішлі ад магутных хетаў да вялікіх арыяў, ад арыйскіх народаў крыві і гуда да крывічаў, дрыговічаў і люцічаў, ад іх усіх разам да магутных ліцьвінаў і, нарэшце, беларусаў.**

**Арлоў напісаў новыя кнігі. Нядаўна выйшлі "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", чакаюць выдання "Таямніцы полацкай гісторыі". Арлоў напіша яшчэ шмат кніг. Чытайце іх. Ён моцны і мужны чалавек. Ён з тых старых ліцьвіноў, якія нікуды не дзеліся, якія заўжды між нас, каб аберагчы нас ад паняверкі,**

**Станіслаў Суднік.**

# *"Дзесяць вякоў..." – прэзентацыя ў Бабруйску*

Дзякуючы арганізацыйнай рупнасці бабруйскага аддзялення Грамадскага навукова-аналітычнага цэнтра "Беларуская перспектыва" і мясцовых арганізацый ТБМ і ТБШ 23 студзеня, у Бабруйску, адбылася сустрэча з патэнцыйнымі і спраўджанымі чытачамі пісьменніка, гісторыка Уладзіміра Аляксеевіча Арлова.

Ні акрыялы мароз, ні ладная аддаленасць дома культуры ААТ "ФанДОК" не зашкодзілі амаль 150 чалавекам "ад старога да малога", каб спатоліць сваю цікаўнасць да асобы Уладзіміра Арлова: пісьменніка, гісторыка, палітыка і чалавека.

Не паспеў пісьменнік распавесці пра гісторрыю асабліва дарагога і роднага яму Полацка, ды свайго радаводу. А ўжо расцепленая публіка пачала "шкваліць" пытаннямі – і сур'ёзнымі, і датклівымі, і з паддзёвам. І дзьве гадзіны Уладзімір Аляксеевіч стоячы, найшчырайшым і сумленнейшым чынам даваў адказы, адно схіляючыся да стала, каб перамяніць цэдулькі з пытаннямі. І гэта ахвярнае рахманае стаянне папросту скарыла многіх, а асабліва жанчын, якія па заканчэнні сустрэчы падзяліліся гэткімі шчырасцямі са мною.

Пад "заслону" спаткання спадар Уладзімір прачытаў сваё эсэ "Незалежнасць гэта ... ", перакладзенае на 21 мову. Пранізлівая глыбанадумнасць і актуальнасць гэтага твору, падкрэсленая вымоўнай сцішэласцю прысутных, спраўдзіла прагу яшчэ большай аддначасці і любові да Беларусі. Напрыканцы адбылася прэзентацыя кнігі У.Арлова і Г.Сагановіча "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі". Ахвочыя маглі набыць гэту кнігу і, безумоўна атрымаць аўтарскае блаславенне – аўтограф.

А на заўтра да мяне падышоў адзін хлопец, які прысутнічаў на сустрэчы са спадаром Арловым ды зусім нядаўна зацікавіўся беларушчынай і сказаў: "Ты ведаеш, паслухаў гэтага чалавека і захацелася не проста жыць, а жыць для Беларусі".

Такі вось удзячны плён!

***З павагай Віктар Маліноўскі, старшыня суполкі ТБМ імя Фр.Скарыны, г. Бабруйска.***

# Сустрэчы з Уладзімірам Арловым

18-19 студзеня па запрашэнню Бярозаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ў раённай бібліятэцы і сярэдніх школах Бярозы, вёсак Першамайскай і Малеча, г. Белаазёрску адбыліся сустрэчы з беларускім пісьменнікам-гісторыкам Уладзімірам Арловым, які прадстаўляў сваю новую кнігу, напісаную сумесна з Генадзем Сагановічам, "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі".

Шчыры распавед пра сваё першае каханне ў першым класе да аднакласніцы Ірачкі, успаміны спадара Уладзіміра пра некаторыя эпізоды свайго дзяцінства, юнацтва і студэнцкія гады, што падштурхнулі савецкага хлопчыка, а пазней юнака да першых спробаў творчасці, усведамлення сваёй нацыянальнай адметнасці і таго, што беларусы амаль нічога не ведаюць пра сваю гістарычную мінуўшчыну, якой могуць ганарыцца, як і любы іншы еўрапейскі народ, выклікалі прыхільнасьць у прысутных. І асабліва гарадскія вучні старэйшых класаў проста завальвалі пісьменніка пытаннямі на самыя розныя тэмы: ад любімага свайго твора і творчых планаў да асабістых адносінаў да дзяржаўнай сімволікі і кіраўніка краіны. Спадар Уладзімір імкнуўся адказаць на кожнае пытанне, каб не пакрыўдзіць нікога, і таму сустрэчы выходзілі за запланаваныя рамкі і графік і асабліва ў першы дзень у райцэнтры пераўтварыліся ў дзевяцігадзінны марафон выступаў, адказаў на пытаньні і пераходаў ад аднаго месца сустрэчы да другога.

Хочацца верыць, што выказванні спадара Арлова, якія рэфрэнам прайшлі праз усе сустрэчы, аб тым, што без гістарычнай памяці і ўсведамлення сябе нашчадкамі многіх пакаленняў сваіх продкаў беларускі народ (як між іньшым і любы другі) не мае будучыні і, што толькі ў сваёй невялікай незалежнай Беларусі мы здолеем дасягнуць дабрабыту, шчасця і спакою, знайшлі водгук у душах многіх падлеткаў. Аб чым сведчыў "лес" рук, паднятых на імправізаваных "рэферэндумах" за незалежнасць беларускай дзяржавы, што праводзілася на некаторых сустрэчах.

***Сяржук Русецкі г.Бяроза Берасцейскай вобл.***

# Налібокі ведала ўся Еўропа

Аб памерах вытворчасьці Налібоцкага шклозавода мы маем першыя звесткі, датаваныя 1737 – 1741 гадамі. У гэты перыяд штогадовы выпуск прадукцыі завода даволі шырокі і вагаўся ў межах 22 – 29 тысячаў злотых. Асартымент прадукцыі даволі разнастайны. У ведамасцях інвентарскага ўліку маёмасьці за 1793 год указана 100 найменьняў розных вырабаў. Больш за ўсё выраблялася шклянак, чарак і ваконнага шкла. Згодна данных 1793 года, тут было выраблена 2100 тонкіх шклянак з рознымі малюнкамі, 2008 штук чарак. Колькасць прадукцыі для свайго часу вельмі значная. Напрыклад, на працягу двух месяцаў 1743 года ў Налібоках было гранёна толькі для Радзівілаў (акрамя іншых заказаў) 1000 вырабаў. А ў 1783 годзе Кароль Радзівіл загадаў вырабіць у Налібоках 180 тысяч лампадак, пры тым рознакаляровых – сініх, зялёных, чырвоных. Асноўная доля прадукцыі, якая ішла на продаж, рэалізоўвалася на месцы і ў бліз ляжачых гарадах і мястэчках. Куплялі яе галоўным чынам багатыя памешчыкі. У асноўным гэта былі купцы з багацейшых краёў Рэчы Паспалітай. Сярод іх былі пакупнікі, што карысталіся паслугамі гуты ўжо шмат гадоў. Дарэчы, Ганна а пазней яе сын Фларыян, заклададьнікі гуты, дбалі больш пра сталых пакупнікоў, бо гэта засцерагала яе ад банкроцтва. Шматразова на імянных лістах продажу ў 40-50 г.г. 18 ст. зьявіліся прозвішчы віленьскіх купцоў: Шэра, Казлоўскага, Кросмана, Цыха і Ульрыха. Былі купцы й з Гародні: Шмуйла Эльяшэвіч, Жад Ківа. Па заданню кіраўніцтва фабрыкі ў замежжа адпраўляліся дэлегацыі для пошуку пакупнікоў. За невялікі адрэзак часу яны знайшлі іх не толькі ў Расеі, але і ў Заходняй Еўропе.

А ў асноўным вырабы з завода дастаўляліся на княскі двор, ішлі на папаўненьне будостаў і сервантаў Нясвіжкага замка і радзівілаўскіх маёнткаў. У выглядзе падарункаў і ўзнагарод пасылаліся яны каралю, прыдворным магнатам і буйным чыноўнікам Польшчы. Радзівілы дарылі шэдэўры налібоцкіх майстроў знатным асобам Расеі, Францыі, Германіі і іншых краін. Цікавы такі гістарычны факт. У 1782 годзе Кароль Станіслаў Радзівіл, па мянушцы "Пане Каханку", пераслаў у Варшаву ў падарунак польскаму каралю Станіславу Аўгусту Панятоўскаму імянны сталовы сервіз, выкананы са шкла лепшай якасьці. Ежы Мантэльскі, пісьменнік, у выданай у 1891 г. у Пецярбургу кнізе "Князь Пане Каханку" прыводзіць наступную вытрымку з ягонага ліста: "І тады, атрымаўшы сервіз, адразу загадаў, каб у рэзідэнцыі ў Лазенках іншага шкла не давалі мне да стала. Няхай кожны бачыць, што ўмеюць рабіць у Налібоках.

І ўсе ўбачылі. Бо налібоцкае шкло было дзіўнай прыгожасьці. Вырабы 18 ст. выпускаліся з паташнага бясколернага, а таксама каляровага шкла, у тым ліку, вельмі рэдкіх і насычаных таноў: бурштынавага, зялёнага, жоўтага, цёмназялёнага, малочнага. Уражвае разнастайнасць асартыменту: кубкі, бакалы, бутэлькі розных памераў для віна й гарэлкі, графіны ўсемагчымых форм, сервізы, сталовыя камплекты. І сёньня зьдзіўляюць рознага віду талеркі, масьлёнкі, салатніцы "брылочкі" й "цабэркі", "ампулкі", і пясочныя гадзіннікі. Выраблялася тут і шкло для гадзіннікаў, акуляраў, люстры, падсьвечнікі і інш.

Не дзіва, што вырабы налібоцкай гуты ўпрыгожвалі шматлікія каралеўскія палацы Эўропы. На Налібоцкай гуце ўдала асвоілі тэхніку залачэньня вырабаў. Сярод размалёўшчыкаў золатам славіўся Адам Пажоха, які маляваў па залатой ці срэбнай фальзе сцэны паляваньня і адзіночныя выявы аленяў, бога вінаробства Бохуса, матывы міфалогіі.

Гістарычны факт, што вырабы Налібоцкага шклозавода па мастацкаму аздабленьню нават сапернічалі з прадукцыяй Берлінска-Пастдамскага шклянога цэнтра, які працаваў для патрэб прускага караля.

Посуд і іншыя прадметы, выробляныя на Налібоцкім шклозаводзе, амаль дзьвесьце гадоў назад, цяпер уяўляюць вялікую рэдкасьць. Іх можна сустрэць у Варшаўскім народным музеі, у музэях Кракава, Гданьска, Коўне, Вовеля, Кіева, Санкт-Пецярбурга, Вільні, Львова, а таксама ў прыватных калекцыях у Швецыі, ЗША і нават у калекцыі славутых зьбіральнікаў антыкварыяту братоў Юзэфа і Станіслава Русоцкіх. На Беларусі няма ніводнага шклянога прадмету з налібоцкай гуты. Налібоцкі шклозавод аказаўся найбольш даўгавечным з усіх радзівілаўскіх мануфактур. Ён праіснаваў 145 год, да 1864 г. Заснаваная на працы прыгонных, гута не вытрымала канкурэнцыі з буйнымі прадпрыемствамі, што ўзьніклі пасьля адмены прыгоннага права. Аркадзь Смоліч, вядомы беларускі дасьледчык у сваёй кнізе "Геаграфія Беларусі" паведаміў, што гэта адбылося дзеля розных прычын, між іншым падаражаў апал "дровы". Аднак нягледзячы на ўсе акалічнасьці, мы ў праве ганарыцца тым, што нашы продкі ўпісалі ў гісторыю беларускай культуры, у тым ліку дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва яскравую старонку. Для беларусаў НАЛІБОЦКІ КРЫШТАЛЬ стаў сімвалам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, як венецыянскае шкло ў Італіі, багемскае ў Чэхіі, "крышталь бакара" у Францыі. Дык будзем жа памятаць пра гэты ўнёсак нашых таленавітых продкаў у нашую нацыянальную гісторыю.

# Давайце спяваць па-беларуску

**Верш Янкі Насуты** **Музыка Уладзіміра Малочкі**




Калосяцца ў полі жыта і пшаніца,
Тонуць у прысадах вёскі, гарады.
Сэрцу дарагая, родная зямліца,
Ты запала ў душы песняй назаўжды.

А лугі квітнеюць, быццам бы абрусы,
Клоніцца калоссе – будзе ўраджай.
Слаўце, усхваляйце працай, беларусы,
Родную зямліцу, наш бацькоўскі край.

Як табой, зямліца, нам не ганарыцца? -
Тут мы пратапталі першыя сляды.
Сэрцу дарагая, родная зямліца,
Ты запала ў душы песняй назаўжды.

## Першы запаведнік

75 гадоў назад (30 студзеня 1925 г.) у вярхоўі Беразіны на тэрыторыі Віцебскай і Менскай абласцей заснаваны першы ў Беларусі Бярэзінскі дзяржаўны запаведнік, створаны для аховы і развядзення каштоўных птушак і жывёл, асабліва, баброў. Справа ў тым, што да 1924 года, пакуль тут не пабывала экспедыцыя загадчыка кафедры заалогіі Белдзяржуніверсітэта прафесара А. У. Фядзюшына, лічылася, што ў Беларусі яны цалкам знішчаны. Зараз лясы і балоты запаведніка заселены прыкладна 50 відамі жывёл, больш 200 -- птушак сярод якіх рэдкія для Еўропы чорны бусел, шэры журавель,



пугач, глушак ды іншыя. Што ж датычылася вінаваўцы адкрыцця запаведнай зоны -- бабра, то гэтыя звяркі абабеглі ўсе нашыя беларускія законы, абжылі ўсе рэчкі і рачулкі запаведніка і даўно выйшлі за яго межы. У 1978 годзе Бярэзінскаму запаведніку нададзены статус біясфернага - тут вядзецца не толькі прыродаахоўчая, але і навукова - даследчая праца, Ён уключаны ў сістэму запаведнікаў міжнароднага значэння . А ў 1996 годзе ён атрымаў прэстыжную узнагароду -- Дыплом Еўропы..

На здымках1. Статак зуброў.
2. Воўк.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 7. 02. 2000 г.
Наклад 3200 асобнікаў. Замова № 336
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 100 руб., 3 мес.- 300 руб.
***Кошт у розніцу:*** 30 руб.